# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 53 (255) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 31 СНЕЖНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## ВАЖНАЯ ПАДЗЕЯ Ў ЖЫЦЦІ СЕЛЬГАСКААПЕРАТЫВАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

14 снежня б. г. адбыўся ў Беластоку IV з'езд прадстаўнікоў 22 сельскагаспадарчых спулдзельняў, існуючых на Беласточчыне. З'яўляецца ён важнай падзеяй у спулдзельчым руху Беластоцкага ваяводства.

З дакладам аб дасягненнях і напрамках развіцця спулдзельняў Беласточчыны выступіў тав. Максім Рудчык — старшыня Ваяводскага праўлення Саюза сельгасспулдзельняў.

Беластоцкае ваяводства па колькасці спулдзельняў застаецца, на жаль, на апошнім месцы ў краіне. На Беласточчыне найбольш (6) спулдзельняў у Гайнаўскім павеце. Гаспадарчае і палітычнае значэнне існуючых спулдзельняў незвычайна вялікае. Спулдзельні ўжо даюць прыклад, як трэба змагацца за актывізацыю сельскай гаспадаркі. Яны дабіліся вышэйшага ўраджаю ад аднаасобнікаў, вырошчваюць больш прамысловых і кармавых культур.

На з'ездзе разгарнулася жывая дыскусія, у якой перш за ўсё разглядалася пытанне хуткага развіцця супольнай жывёлагадоўлі.

З'езд паклікаў Савет Саюза сельгасспулдзельняў і Ваяводскае праўленне гэтага Саюза. Старшынёю савета выбрана тав. Максіма Рудчыка, а старшынёю праўлення тав. Яна Ігнатовіча.

У заключэнні з'езд прыняў пастановы, якія дакладна вызначаюць заданні спулдзельням Беласточчыны на бліжэйшыя два гады.

(вр)

## ГАСПАДАРЛІВЫЯ ПАЛІЧАНЕ

Кожная вёска адрозніваецца ад іншых чымсьці асаблівым. І знешнім і ўнутраным. Унутраных прыкмет у жыцці некаторых вёсак трэба неаднойчы проста шукаць. І знайсці іх часам нялёгка, калі кожны гаспадар жыве ў адарванасці ад суседзяў - аднавяскоўцаў, толькі ў адзіночку дбае пра сваю гаспадарку і не цікавіцца больш нічым. Але нельга гэтак сказаць аб вёсцы Палічнай у Гайнаўскім павеце. Стымулам прагрэсу ў гаспадарцы гэтай вёскі, і то сур'ёзным, з'яўляецца...

### ...СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ ГУРТОК

Як толькі даведаліся гаспадары, члены партыі, аб магчымасцях арганізавання сельскагаспадарчага гуртка, адразу яго арганізавалі. Гэта было ў 1958 годзе. Партыйная арганізацыя ў Палічнай налічвае 15 членаў і ўсе яны сталіся гурткоўцамі. А потым у іх сям'ю далучылася яшчэ дбух беспартыйных гаспадароў.

Гурткоўцы паставілі перад сабою немалаважнае заданне: перш за ўсё — не дапусціць да знішчэння паспулдзельчых пабудоў і па меры сваіх магчымасцей выкарыстаць іх для мэт развіцця гуртка. Крыху ўнеслі свайго грашовага ўкладу, узялі ў дзяржавы пазыку купілі электрычны млынок і заінсталявалі яго ў былой аборы. Млынок стаў даваць даход, бо ахвотных малоць тут заўсёды многа. У 1960 годзе чысты даход з млынка склаў суму 18 тыс. зл.

Затым гурткоўцы падумалі аб сельскагаспадарчых машынах. І не толькі падумалі. Бо менавіта ў 1960 г., выкарыстоўваючы належную сабе частку грошай з фонду развіцця сельскай гаспадаркі і ўносячы свае грашовыя ўклады, яны набываюць неабходныя машыны, абмалотачны агрэгат, манеж для рэзання сечкі (у паспулдзельчай стадоле паставілі сячкарню і наладзілі рэзанне сечкі для ўсіх ахвотных за дробную аплату). Потым купілі найбольш цэнную рэч — трактар з камплектам неабходных машын, прычэпу, культыватар і другі абмалотачны агрэгат (электрычны).

— Амаль уся грамадская рада карыстаецца нашымі абмалотачнымі агрэгатамі. Многім гаспадарам прыносяць паслугі іншыя нашыя сельскагаспадарчыя машыны, —

(Працяг на стар. 4)



ВЁСКА ЗБУЧ

Фота: Г. Рагазінскі




### КАЛЯНДАР «НІВЫ» І НАВАГОДНЯЯ БАТЛЕЙКА

У наступным Навагоднім нумары змесцім каляндар на 1962 год. У гэтым жа нумары будуць таксама навагоднія інтэрв'ю, новы цікавы конкурс і Навагодняя батлейка.

## ВЫДАТНЫ ПРЫКЛАД ДЛЯ ЎСІХ ГУРТКОЎ

26 000 злотых унеслі члены гуртка ЗМВ з Алексіна (Бельскі пав.) на фонд будовы школ Тысячагоддзя. Адкуль узялі грошы? З арганізаваных забаў, з даходу за выступленні свайго драмгуртка, які ездзіў па суседніх вёсках з пастаноўкамі. Зараблялі і ашчаджалі. Добры, выдатны прыклад для ўсіх гурткоў.

вл.

* * *

А год стары
ў сівых лугах
шаўкі мяцеліц не
раскручваў, —
іх зберагаў ён у пасаг
зіме са снежнем
на заручыны.
На рэчцы тонкі лёд блішчэў,
і дробны снег
кастрыцай сеяўся.
Бярозы ўпотай
з-за плячэй
дубоў
глядзелі:
— Дзе ж вяселле?
І вось нарэшце, як сваты,
цераз лясы,
з далечы сіняй,
прыйшлі вясёлыя вятры
з барадамі
у белым інеі.
Палотны белыя
снягоў
разгортвае віхура сваццяй.
Дзесь блізка едзе важны
госць
да іх мароз.
Такое свята!
Па дрэвах грукае, звініць.
Ляцяць стаеннікі
па хвойніку.
У падарунак дываны
вязе ён мяккія,
пуховыя.
Ніяк адліга не засне, —
Рыхтуе ў склепе зелле —
чары.
Марозу хутка паднясе
нявеста
—уся у белым —
чару.
Асуша, ўзніме,
каб разбіць
на шчасце той,
і шчоўкне пальцамі.
І ўсё закружыць, завірыць
з маладажонамі у танцы.

ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ



* * *

Культурны адпачынак пасля працы — вялікая рэч. Удзельнікі калектыву песні і танца пры ГП БГКТ праводзяць вольны час найчасцей у святліцы Таварыства. Апрача заняткаў над вывучэннем новага рэпертуару, арганізуюць яны танцавальныя вечары і сяброўскія сустрэчы пры «малой чорнай» (на здымку).

Фота: Г. Рагазінскі

# ЦЯЖКІ ГОД 1961

Гэта быў несумненна цяжкі і прычыняючы мноства турбот год. Яго пачатак быў адзначаны каварнай агрэсіяй Злучаных Штатаў супроць Кубы, якой адзіным грэхам з'яўляецца тое, што хоча жыць сваім уласным, незалежным жыццём.

Імперыялістычныя дзяржавы ніяк не хочуць дабравольна пазбыцца палітыкі грабежу чужых зямель, панавання над другімі людзьмі. Вось асноўная супярэчнасць завяршальнай эпохі імперыялізму, вось крыніца шматлікіх канфліктаў у 1961 годзе. Куба, Конга, Лаос, Ангола, Алжыр і Дамініканская рэспубліка — гэта краіны, у якіх у мінулым годзе разгортвалася барацьба за свабоду і незалежнасць. Яны былі таксама дасканалым прыкладам таго, як аджываючыя свой век сілы намагаюцца яшчэ ўсімі даступнымі спосабамі захаваць свае палітычныя прывілеі і мільённыя даходы.

Не падлягае сумненню, хто з'яўляецца і хто будзе пераможцам у гэтай барацьбе. Наглядным доказам перамогі народаў Азіі, Афрыкі і Амерыкі з'яўляюцца змены на палітычнай карце свету, з'яўляецца сітуацыя ў ААН. Год назад гэтая арганізацыя налічвала 99 членаў (1960 год быў жа ж годам барацьбы народаў Афрыкі за сваю свабоду), сёння мае іх ужо 114.

У 1961 годзе палітычнае і эканамічнае развіццё сацыялістычных краін дайшло да такога ўзроўню, што існуюць усе магчымасці, каб можна было імперыялістычным дзяржавам навязаць прынцыпы мірнага суіснавання і спаборніцтва паміж палітычнымі сістэмамі. Зразумела, што афіцыяльна ніякая імперыялістычная дзяржава не дала дагэтуль згоды прымаць удзел у такіх мерапрыемствах. Такая згода мусіла б азначаць адрачэнне ад палітычнага эканамічнага захопніцтва, ад гонкі ўзбраенняў і прапаганды нянавісці паміж народамі. Не, 1961 год не прынёс нам прыкмет, якія маглі б сведчыць аб нейкіх зменах у самым характары імперыялізму. Наадварот, Злучаныя Штаты прынялі найбольшы ў пасляваеннай гісторыі ваенны бюджэт (звыш 50 мільярдаў долараў), стварылі найбольш шматлікую армію і згуртавалі найбольш аружжа масавага знішчэння. Францыя распачала будову т.зв. уласнай ударнай атамнай сілы, а Германская Федэратыўная Рэспубліка, выконваючы загады генералаў былой гітлераўскай арміі, адкрыта намагаецца, каб НАТО было чацвёртай атамнай сілай. Мэта гэтых мерапрыемстваў зусім ясная. Бундэсвера з'яўляецца асноўнай сілай Атлантычнага пакта і таму хацела б танным коштам атрымаць аружжа.

У гэтых умовах, у якіх апынуўся свет на пачатку 60 г.г. XX стагоддзя, гісторыя напэўна станоўча ацэніць крокі Савецкага Саюза. Правядзенне серыі ядзерных выпрабаванняў, рашучасць па берлінскаму і нямецкаму пытаннях, гэта былі перасцярогі ў адрас імперыялістычных колаў. Хто ведае, ці часам усё гэта не паўстрымала злавеснай рукі імперыялізму, пагражаючай міру жудаснай ваеннай катастрофай. Сёння ніхто ўжо не сумняваецца ў тым, што нельга больш бяскарна бясчынстваваць, калі ў свеце існуе такая магутная сіла як Савецкі Саюз.

1961 год пярэйдзе ў гісторыю як год XXII З'езда КПСС, як год афіцыяльнага абнародвання будовы камунізма ў СССР ужо ў час жыцця сучаснага пакалення. Праграма будовы камуністычнага грамадства з'яўляецца эпахальнай падзеяй. Краіна, якая першай выслала ў 1961 г. двух людзей у космас, здзейсніць таксама і свае зямныя справы. Зразумела, што значэнне XXII З'езда КПСС выходзіць далёка за свае рамкі і з'яўляецца знамянальнай падзеяй не толькі для СССР. У рашэннях гэтага з'езда ўсё прагрэсіўнае чалавецтва бачыць таксама шлях для сябе.

Так, 1961 год быў цяжкім годам. Сутыкнуліся ў ім з вялікай сілай дзве супрацьлеглыя тэндэнцыі сучаснага свету: тэндэнцыя знішчэння ўсяго чалавецтва з тэндэнцыяй жыцця, развіцця і шчасця чалавека. Гэтая барацьба не завяршаецца разам з адыходам старога года, яна надта ж яшчэ доўгая, аднак не падлягае сумненню, што камунізм выйдзе з гэтай барацьбы пераможцам.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# ХТО ПРАБЯЖЫЦЬ ХУТЧЭЙ ЗА КУЦА

Нямала паправак упісалі ў гэтым годзе лёгкаатлеты ў табліцу сусветных рэкордаў. Сярод тых, якія ўстаялі, — дасягненне выдатнага савецкага бегуна Уладзіміра Куца ў бегу на 5000 метраў. Рэкорд гэты нарадзіўся восенню 1957 года ў Рыме, на тым самым стадыёне, дзе праз тры гады пала так многа сусветных дасягненняў.

А што робіць цяпер Уладзімір Куц? Герой Мельбурнскай Алімпіяды закончыў у гэтым годзе інстытут у Ленінградзе і цяпер будзе працаваць трэнерам.

Я сустрэўся з ім у Маскве. Бадзёры, поўны энергіі, Куц з захапленнем расказваў аб планах сваёй трэнерскай работы. Блізкая да ажыццяўлення яго мара — выхоўваць моладзь, перадаваць юным бегунам залатыя крупінкі бясцэннага вопыту, накопленага ім у спартыўных «баях» на стадыёнах свету. Але, пакінуўшы бегавую дарожку, рэкардсмен свету па-ранейшаму — не, бадай, яшчэ больш уважліва, — сочыць за развіццём сусветнай лёгкай атлетыкі. І ўжо, вядома, ён у курсе ўсіх падзей на доўгіх дыстанцыях.

Я задаў яму пытанне:

— Як вы думаеце, ці будзе пабіта ваша дасягненне ў будучым годзе? І — калі так — хто, на вашу думку, стане «аўтарам» новага рэкорду?

— У мінулым сезоне рэкорд падвяргаўся неаднаразовым «атакам», — адказаў Уладзімір Куц. — І я думаю, што будучага года яму «не пераджыць». Магчыма, ён падзе ў верасні на першынстве Еўропы ў Белградзе, а можа быць, і раней.

Хто прабяжыць 5 кіламетраў хутчэй за мяне? За рубяжом гэта здольны зрабіць хутчэй за ўсё Ханс Градоцкі з ГДР і польскі стайер Казімеж Зімны. З нашых бегуноў гэта задача па сілах Аляксандру Арцынюку, але ленінградцу не хапае сапраўды байцоўскага тэмпераменту, спартыўнай «злосці». Вялікія надзеі ўнушае мне малады стайер з Ашхабада Мікалай Пацехін. Пакуль лепшы вынік 24-гадовага спартсмена на 5-кіламетравай дыстанцыі — 14 мінут 12,4 секунды. Але я бачыў яго на кросе ў Мукачаве і думаю, што ў гэтага хлопца вялікая будучыня.

Я папрасіў Куца выказацца з прычын нядаўняга выступлення вядомага ў мінулым англійскага бегуна - аматара, а цяпер прафесіянала Гардона Піры ў лонданскай газеце «Піпл». У сваім артыкуле Піры заявіў аб тым, што, выступаючы ў Мельбурне, Куц, нібыта, прымяняў допінг.

— Я магу толькі сказаць, што абвінавачанне Піры — чысцейшы домысел, — заявіў чэмпіён XVI алімпіяды. — У сваім артыкуле Піры сцвярджае, што на алімпіядзе я трымаў сябе «дзіўна». Але ні тысячы гледачоў у час і пасля бегу, ні дзесяткі журналістаў, якім я даваў інтэрв'ю на працягу 40 мінут адразу ж пасля заканчэння забегаў, не заўважылі ў маіх паводзінах нічога дзіўнага. Не заўважылі «дзіўнасці» у мяне нават спартыўныя журналісты, людзі па роду сваёй прафесіі вельмі ўважлівыя і скрупулёзныя.

— Мне горка, — сказаў у заключэнне Уладзімір Куц, — што Гардон Піры, якога я ў мінулым паважаў і цаніў як спартсмена і чалавека, дзеля сумніцельнай рэкламы пайшоў на такую здзелку з уласным сумленнем.

**Б. Бухаўцаў**
(ТАСС)



Уладзімір Куц і Гардон Піры на алімпіядзе ў Мельбурне.

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

**19.XII. у Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага праўлення ТРЗЗ, прысвечанае ролі і заданням Таварыства на фоне цяперашняга міжнароднага становішча, а асабліва ў аблічча рэвізіяністычных пачынанняў ГФР.**

*

**19.XII у Беластоку ў зале Бібліятэкі адбыўся камерны канцэрт вядомай спявачкі з Лейпцыгу (ГДР) Эвы Люгн.**

*

**21.XII у Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, прысвечанае абмеркаванню дагэтуляшняй гаспадарчай дзейнасці сельскагаспадарчых гурткоў.**

*

**24—26.XII у Беластоку звыш 250 выездаў зрабіла хуткая дапамога, у гэтым толькі 25 снежня — 100 разоў. (Пераважна беластачане выклікалі х. д. па прычыне... аб'ядзення і перапою).**

**У гэтых днях у Беластоку прышло на свет 28 дзяцей (14 хлопчыкаў і... 14 дзяўчынак).**

**Спакойнае свята мелі затое пажарнікі і... міліцыя. (Ніводнага пажару, і толькі некалькі міліцыйных выездаў прафілактычнага характару).**

**Мала наведвальнікаў ў часе свят мела таксама беластоцкая выцверазілаўка (24—25 толькі... дванаццаць аматараў, а 26 да 14 гадзіны... ніводнага(!).**




Уначы за вёскай завязалася страляніна. Нібы сабака на прывязі, брахаў кулямёт і разрываліся гранаты. Зялёныя і белыя ракеты асвятлялі стрэхі дамоў, іржалі перапалоханыя коні. Па вуліцы беглі нямецкія і славацкія салдаты, сонныя, напалоханыя баявой трывогай.

За хатай лясніка ў траве ляжала ўсяго каля дзесяці салдат, якія нарабілі шуму за цэлую роту. Сярод іх вылучалася вялізная постаць капітана Чамбала. Ён кідаў далёка перад сабой гранату за гранатай і крычаў што было сілы:

— Партызаны! Партызаны!

Прыбеглі немцы. Яны палеглі на зямлю і адкрылі агонь па лесе. Калі ўвесь гарнізон быў ужо на нагах, Чамбал цішком прайшоў за хату, дзе салдат падаў яму пляшку.

Ад разбаўленага спірту кроў заіграла ў яго целе.

61

Ён ударыў сябе па тоўстых сцёгнах і заспяваў:

Гэй, лепш на даліне,
Як на раўніне...

— Гэй, Яне, — паклікаў ён, убачыўшы Налепку. — Хадзі сюды, выпі.

Налепка ўважліва паглядзеў на Чамбала, і калі заўважыў, што ён п'яны, пачырванеў ад злосці.

— Што гэта такое?

Словы Налепкі абразілі Чамбала. Ён, як пакрыўджанае дзіця, надзьмуў свае тоўстыя губы, апусціў галаву і рэзка ўскінуў плячом.

— Хіба не бачыш, Яне. Смяемся з іх. Страляю ў лес, крычу: «Партызаны!», і гэтае быдла дапамагае мне. Брр! Зубамі бы іх паразрываў, зубамі...

— Не прыдурвайся, Ежы. Вось і падпалкоўнік прыйшоў.

— Прыйшоў, прыйшоў! Ліха з ім, — скрывіўся Чамбал. — Прыдурваюся? — пакрыўдзіўся ён. — Не ведаеш, а вярзеш глупства. Я патроны перадаў партызанам. За гарэлку. Ну, а як іх спішаш? Выстралілі іх і баста!

Чамбал працягнуў Налепку пляшку, а калі той адмовіўся ад гарэлкі, забурчаў:

— Русафіл, а рускую гарэлку піць не хочаш.

Налепка часам любіў перакуліць чарачку, але цяпер толькі прыгубіў і аддаў пляшку салдату, які вынырнуў, нібы цень, з-за спіны Чамбала.

62

— Ой і выпілі мы з партызанамі, — сказаў Чамбал, выціраючы ўспацелы лоб. — Ты разумееш гэта, русафіл? Я чэхаславак!

Ён паклаў на плячо Налепкі руку і, душачыся ад смеху, шапнуў яму ў вуха:

— Тое нацысцкае быдла шукае Рэпкіна. Але дулю ім з макам. Калі ёсць тут які-небудзь Рэпкін, дык гэта я сам.

Твар Чамбала быў суровы. Ён ударыў сябе кулаком у грудзі так, аж загула, пасля злянуў на Налепку і сказаў:

— А мо' гэта ты?

— Можа ты ўжо сціхнеш, — холадна адказаў Налепка. — Павінен зразумець, што пра такія справы можна гаварыць тады, калі чалавек цвярозы. І потым, патроны за гарэлку, — хіба табе не сорамна?

— Я дапамагаю саюзнікам, пане капітан, — ікаючы, сказаў Чамбал. — Ну як вы гэтага не разумееце? — Дык аддай ім тады патроны дарэмна.

Чамбал сарваў з галавы шапку і, моцна тузаючы сваю кучаравую чупрыну, замармытаў:

— Хіба я асёл?

Сказаўшы гэта, ён жартуючы казырнуў і цяжка пакрочыў у хату.

Калі Налепка выйшаў са двара, салдаты ўжо варталіся ў вёску. Хлопцы Чамбала запэўнялі падпалкоўніка Жака, што партызаны адкрылі па іх агонь.

63




# З НОВЫМ ГОДАМ

Хоць вёска наша ў бездарожжы загублена, а Новы год і ў такую глухамань заглядвае. Таму і падрыхтаваліся мы да культурнай сустрэчы Новага года.

Закусачны фонд па хатах сабралі. Напіткаў нямнога было — па літру на галаву, улічваючы і дзяцей. Дзеці ў нас не п'юць, але і не пярэчаць, калі ўзрослыя за іх здароў'е па некалькі шклянак перахіляць.

Каб захаваць адпаведны парадак, вызначылі ў вёсцы дзяжурных. Быў нават праект ілюмінаваць вёску агнямі, але камендант супрацьпажарнай каманды супрацьпаставіўся.

Уполерак вуліцы падвесілі лозунг: «Не зявай, Новы год нясе багаты ўраджай». Збірацца пастанавілі ў 22 нуль-нуль, каб людзі паспелі ўправіцца з жывёлай і палажыцъ спаць дзяцей.

Першая нечаканасць атрымалася ў час пераносу гарэлкі. Лятучы пералік выявіў нястачу, а вінoўнікі, ледзь варочаючы языкамі, ніяк не маглі выявіць гэтага.

— Мо' гэта і лепш, — сказаў дзядзька Кандрат. — Менш вып'ем — больш будзе парадку.

Але загадка высветлілася ў час арганізацыйнага сходу. Паведамілі, што дзяжурныя ап'янелі. Кіраўнік балю паспяшыў выясніць гэту справу.

Дзяжурныя сядзелі на страсе суседняй хаты. Адзін з іх поламі ватоўкі ўяўляў бусла на адной назе, а другі хлопаў далонямі па сцёгнах і крычаў захрыплым голасам: «Ку-кар-э-ку!»

Вярнуўшыся, кіраўнік пачуў прамову каменданта:

— Людзі мілыя! — гаварыў той, хістаючыся на нагах. — Дамо калектыўнае, урачыстае слова, што ў Новым годзе не дакранемся да кілішка. Тады давайце націскаць, пакуль не позна.

Госці добрасумленна націскалі. Кіраўнік, улічваючы, што хутка застанецца толькі пустая пасуда, паспяшыў за стол.

Ці трэба гаварыць, што пасля ніхто не памятаў данага слова. А Новы год стаяў ужо на парозе.

*Дзядзька Лявонь*

### НОВЫЯ АДКРЫЦЦІ

Жанчына тады вырашае рабіць ашчаднасці, калі выдасць апошнія грошы.

*

— Ці ты прыкмеціла, як змяняюцца мужчыны? Тыдзень таму Янка захапляў мяне, а сёння глядзець на яго не магу.

*

Маналог — гэта абмен думак паміж двума людзьмі, з якіх адно з'яўляецца жонкай, а другое мужам.




### ЯК ПАЗБІРАЛІСЯ

— Тата, дзе вы нарадзіліся? — пытае хлопчык.

— У Бельску.

— А мама?

— У Гайнаўцы.

— А я?

— У Саколцы.

— Як жа мы тады ўсе пазбіраліся ў Беластоку? — здзівіўся хлопчык.

Марыя Мартонік
Радунін

### КОРАТКА І ЯСНА

Адзін афіцэр меў такую звычку, што амаль пасля кожнага сказа гаварыў: коратка і ясна.

— Пасцяліце мне пасцель, коратка і ясна, — звярнуўся ён аднойчы да новага салдата.

—Дзе ж яму пасляць, каб было коратка і ясна? — думае салдат.

Думаў ён, думаў, а ў канцы паслаў афіцэру на акне.

— Ты што, з глузду з'ехаў? — разгневаўся афіцэр.

— Вы ж казалі, каб коратка і ясна, — апраўдваўся салдат. — Я так і зрабіў.

Эдуард Прылажынскі
Гарбары

### ЗУБ

Янку балеў зуб. Ён пайшоў да зубнога лекара і вырваў яго.

— Ці баліць яшчэ зуб? — пытае на другі дзень сусед.

— Не ведаю, — адказаў Янка, — ён жа ў лекара застаўся.

Марыся Палаўянюк
Бельск



— Ох, як жа я люблю сюрпрызы!



— ...Я адразу пазнаў, што гэта жанчына — не ўмее трымаць рук у кішэнях.



Прысваенне афіцэрскага звання ў школе МО.



— Замест спакойна чытаць, памог бы мне талеркі мыць!

## БАРАНОЙ па ПУСТАЗЕЛЛІ

— Ад прыбытку, — кажуць, — галава не баліць.

Але не заўсёды так бывае. Напрыклад, аддзел сельскай гаспадаркі прэзідыума ПРН у Дуброве мае шмат клопату з прычыны прыбытку. Каля вёскі Каменна Старая ёсць 13 гектараў пакінутай зямлі, па былым абшарніку. Гэта зямля гадамі ляжала аблогам, ніхто не карыстаўся ёю. Нейкі час таму назад у аддзеле сельскай гаспадаркі пастанавілі заняцца бяспанскай зямлёй. У выніку гэтага 1 гектар аблогу адпушчана пад саджанцы лясных дрэвак. Але 12 гектараў ляжыць далей аблогам, і ніяк аддзел сельскай гаспадаркі не можа знайсці гаспадара да іх. У гэтых 12 гектарах аблогу ёсць 6 гектараў дабраякаснага саду (216 фруктовых дрэў). Сад гэты запушчаны, ніхто пра яго не дбае. Неафіцыйным гаспадаром саду з'яўляецца ўся аколіца. Восенню, тут як звычай, без пары пазрываюць фрукты. Пасля гэтага сад выглядае, як пасля страшэннай буры. Паломаныя галінкі, паскручваныя вярхі. Ну, проста варварства. Сэрца баліць, гледзячы на такое знішчэнне.

— Ну што ж, няма ніякай рады, — адказваюць у аддзеле сельскай гаспадаркі. — Садок жа бяспанскі.

У Каменнай Старой існуе сельскагаспадарчы гурток. Ён мог бы ўзяць у дзяржавы зямлю і сад, але не хоча.

— Навошта нам гэта, — кажа Казімір Точка — старшыня сельгасгуртка. — Мы і без дзяржавы можам карыстацца садам. Вырастуць яблыкі — бяры ды зрывай. Іх жа ніхто не старажуе.

Вядома, пры адпаведным загаспадараванні, як зямлі, так і саду, быў бы нядрэнны даход. Але што ж, калі няма гаспадара. Таму і баліць галава ад прыбытку.

## УСМЕШКІ ЧЫТАЧОЎ „ВОЖЫКА"

### НЕЦІКАЎНЫ

— Вы чыталі пісьмо Тацяны да Анегіна?

— Прабачце, я чужых пісем не чытаю.

### ДЗЕ ЁН ЖЫВЕ?

П'яны: — Скажыце, дзе жыве Змітрок Канцавы?

— Дык гэта ж вы самі.

— Я ведаю, але скажыце, дзе ён жыве?

### У БІБЛІЯТЭЦЫ

— У вас ёсць «Цэмент» Гладкова?

— Няма.

— А «Што рабіць?»

— Схадзіце ў другую бібліятэку.

### АПРАЎДАЛАСЯ

— У вашай хаце брудна...

— А мы з мужам хоць і сварымся, а смецця з хаты не выносім.

### НА ЛЮДНАЙ ВУЛІЦЫ

Каля хлопчыка сабраўся натоўп. Чуваць галасы:

— Хлопчык заблудзіў!..

— Хлопчык заблудзіў!..

Хлопчык гаворыць:

— Не, я не заблудзіў! Гэта мама і тата заблудзілі.

### ЛЯ БІЛЕТНАЙ КАСЫ

— Дайце, калі ласка, білет да прыпынку Боцікі.

— Няма такога прыпынку.

— Чаму гэта няма? Ёсць.

— Вам хіба да прыпынку Чарацікі?

— Ну, так.

— Дык чаго ж вы блытаеце?

— Падумаеш, на нейкую там халяву памыліўся!

### СЛУШНАЯ ЗАЎВАГА

Да старшыні сельпо бухгалтар прынёс акты на спісанне каўбасы, цукру, масла і селядцоў. У гэты момант у кабінет заглянуў вартаўнік дзед Сахон.

— Не дзьмухайце дужа, Мікалай Ахрэмавіч, на пячатку, — не ўтрымаўся ён, калі начальнік намерваўся заверыць «дакумент».

— Чаму?

— Гарэлкай пахнуць будзе!

